СВАБОДА
15 красавіка 1995 г.
№15
Кошт 300 рублёў

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 60 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56
Тэл./факс 36-24-41

Ігар ГЕРМЯНЧУК

# Банда Лукашэнкі выканала загад свайго гаспадара

## Але гэта ўсяго толькі пачатак

13 красавіка мне ў рэдакцыю патэлефанаваў старэйшы сьледчы па асабліва важных справах пры Генэральнай пракуратуры Я.Бролішс і прапанаваў паехаць зь ім, каб зрабіць судова-мэдычную экспэртызу (г.зн. зьняць пабоі). Экспэрт зафіксаваў дзесяць сьлядоў, якія пакінулі на мне прэзыдэнцкія падонкі ў чорных масках і намордніках. Але я ведаю, што іншыя мае калегі (З.Пазьняк, Л.Баршчэўскі, А.Шут) пацярпелі ў тую ноч яшчэ болей.

Сьледчы сказаў, што Генэральная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу і распачала папярэдняе сьледзтва "па факту насільля, ўжытага супраць дэпутатаў". Ён папрасіў падысьці ў бліжэйшыя дні да яго і расказаць пра ўсё, што адбылося.

Між тым, я лічу, што будзе карысным даведацца пра гэта ня толькі сьледчаму, але і чытацкай публіцы. Бо атрымалася так, што пра гэтыя падзеі добра ведаюць практычна ва ўсім сьвеце, але нічога ня ведаюць у нас. Заходнія СМІ апэратыўна і падрабязна паведамлялі і пра галадоўку дэпутатаў і пра начны напад на іх (вытрымкі з гэтых публікацыяў вы можаце пачытаць на 6-й паласе гэтага нумара). А беларуская афіцыйная прэса альбо рабіла выгляд, нібыта нічога не адбылося, альбо займалася звыклай для яе хлусьнёю. Таму большасьць людзей яшчэ і сёньня практычна нічога ня ведаюць нават аб прычынах, якія вымусілі дэпутатаў распачаць галадоўку. Таму, відавочна, ёсьць сэнс апублікаваць цалкам заяву 18-ці дэпутатаў, якую абвесьціў раніцай 11 красавіка з трыбуны сэсіі лідар Апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк. Вось яе тэкст:

*"Спадары дэпутаты!*

*Мінула амаль пяць гадоў дзейнасьці Вярхоўнага Савету, у якім усё вызначала і вызначае былая камуністычна-намэнклатурная большасьць.*

*Які ж вынік вашай дзейнасьці за пяць гадоў, спадары дэпутаты? Што вы нарабілі, што натварылі?*

*Пяць гадоў назад у нас быў аднолькавы жыцьцёвы ўзровень, як і ў краінах Балтыі.*

(Заканчэньне на стар.2)



**Паміж падзеямі 9 і 12 красавіка ёсьць пэўная сувязь** *стар.3*

**Яны бачылі ядзерны выбух зблізку** *стар.3*

**Палітычны прагноз З.Вальняровіча** *стар.4*

**Знакамітая паэма "Лука Мудзішчаў — прэзідэнт"** *стар.5*

**Заходняя прэса пра гвалтоўныя дзеяньні супраць дэпутатаў** *стар.6*

**Галіна Лукашэнка знаходзіцца на лячэньні ў Менску** *стар.8*

На здымках: Так пачыналася галадоўка. Увечары дэпутаты зьбіраліся класьціся спаць.



## Васіль БЫКАЎ:

# "Краінай кіруе хунта"



Вельмі хацелася б памыліцца, згледзець усё як эпізод у няпростых калізіях палітычнага змаганьня на Беларусі, але, здаецца, памыліцца тут немагчыма. Тое, што адбылося за апошнія суткі, ёсьць ня што іншае, чымся прэлюдыя фашыстоўскага перавароту, калі група асобаў учыняе крывавую лазьню ў сьценах парламанту і захоплівае ўсю паўнату ўлады ў краіне.

Нядаўна гэтаксама рабілася ў шэрагу лацінаамэрыканскіх краінаў, у чорнай Афрыцы, некаторых краінах Азіі. Але што цікава — нідзе той дыктатарска-фашыстоўскі рэжым не затрымаўся надоўга. У крайнім выпадку яго хутка зьмяняў такі ж, хоць і пад іншым кіраўніцтвам, які ставіўся да сваіх папярэднікаў гэтаксама бязьлітасна, як тыя ставіліся да сваіх.

У нас жа вельмі непрыемна і нават страшна, што ўсё тое інспіравана зьверху, пад кіраўніцтвам быццам бы дэмакратычна абранага прэзідэнта, у руках якога і без таго засяроджана велізарная сіла. Раней ён тую сілу пагрозьліва рэалізоўваў на плошчах ды вуліцах, цяпер чарга дайшла да парламанцкіх залаў. Нават кішэнны па-сутнасьці, паслухмяны і пракамуністычны Вярхоўны Савет стаў для яго перашкодай. Але перашкодай на шляху куды? Ведама ж, да ўстанаўленьня асабістай дыктатуры, каб "усур'ёз і надоўга". Сёньня ён перамог рукамі "гарылаў" у чорных масках. Ужо відаць, што на Беларусі ня будзе парламанту, ня будзе выбараў, зьнікнуць рэшткі вольнай прэсы. Краінай закірує прэзідэнцкая хунта. А як кіруюць хунты, мы добра ведаем зь нядаўняга вопыту.

Беларусь падае яшчэ глыбей у прорву палітыка-эканамічнага крызісу, на выйсьце зь якога страчваюцца апошнія спадзяваньні.

Што ж, можна хіба павіншаваць беларусаў зь мінулымі выбарамі. Горай ня зробіш — для сябе, для грамадзкасьці, для нашчадкаў таксама.

12 красавіка 1995 г.

**Васіль БЫКАЎ**

## Заява амбасады Злучаных Штатаў Амэрыкі аб палітычных падзеях у Беларусі

Пасольства Злучаных Штатаў Амэрыкі зь велізарнай заклапочанасьцю разглядае разьвіцьцё палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Асаблівую трывогу Пасольства выклікалі паведамленьні пра прымяненьне сілы ў адносінах да дэпутатаў Вярхоўнага Савету ў зале паседжаньняў.

Злучаныя Штаты настойліва заклікаюць да вырашэньня палітычных праблемаў мірным і дэмакратычных шляхам, цалкам кіруючыся правамі чалавека ў адпаведнасьці зь міжнароднымі пагадненьнямі, якія падпісала Беларусь.

© PDF: Kamunikat.org 2010
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Банда Лукашэнкі выканала загад свайго гаспадара

(Пачатак на стар.1)

*Але краіны Балтыі пайшлі па шляху свабоды і эканамічных рэформаў і цяпер ужо пачынаюць карыстацца пладамі сваёй разумнай палітыкі. Беларусь жа, дзякуючы перш за ўсё вашай дзейнасьці, пакацілася ў яму жабрацтва, разбурэньня эканомікі, інфляцыі. Ад рэформаў адмовіліся, краіну абрабавалі, народ абакралі, маёмасьць "прыхватызавалі". У людзей забралі грашовыя ўклады і аблігацыі, не далі ні зямлі, ні працы, ні нармальнага сацыяльнага забесьпячэньня. На кожную душу павешалі велізарную дзяржаўную пазыку.*

*І што ж прапануеце вы цяпер разам з вашым прэзідэнтам, якога вы прыдумалі, спадары намэнклатурныя дэпутаты? Што прапануеце вы цяпер, "пад заслону", у канцы вашай бясплённай, разбуральнай дзейнасьці?*

*Абрабаваўшы народ, вы, топчучы Канстытуцыю і закон, прапануеце яму рэфэрэндум аб яго сьвятой беларускай мове, аб яго гістарычным сьцягу і гербе ва ўмовах жабрацтва, бясправ'я, інфармацыйнай блакады і поўнага беззаконьня. Абрабаваўшы народ, вы прапануеце яму грамадзкі раскол і грамадзянскае супрацьстаяньне. Абрабаваўшы народ, вы гатовы прадаць незалежнасьць яго Бацькаўшчыны, кінуць яго пад эксплуатацыю і расправу сваёй і замежнай мафіі. Вось вынік вашай пяцігадовай дзейнасьці.*

*Мы, дэпутаты Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту пратэстуем супраць зьдзеку з нашага народу, з нашай Айчыны, з Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь. Выкарпаўшы ўсе магчымасьці, у знак пратэсту супраць антызаконнасьці і згубнасьці вашых дзеяньняў, мы аб'яўляем галадоўку тут, у цэнтры гэтай залы. Пачынаем яе цяпер з гэтай хвіліны.*

*Мы патрабуем выкананьня Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь, свабоды слова і ліквідацыі цэнзуры, спыніць рабаваньне народу і Бацькаўшчыны".*

Пад заявай паставілі свае подпісы дэпутаты: **З.Пазьняк, С.Антончык, Л.Баршчэўскі, Ю.Беленькі, І.Гермянчук, В.Голубеў, Б.Гюнтэр, Л.Дзейка, Ул.Заблоцкі, Л.Зданевіч, М.Крыжаноўскі, М.Маркевіч, В.Малашка, С.Навумчык, С.Папкоў, П.Садоўскі, А.Трусаў, А.Шут**

*Як жа разгортваліся падзеі ў ноч на 12 красавіка?*

**21.00.** У залу парламанту заявіўся начальнік аховы Дома ўраду палкоўнік М.Цесавец разам з начальнікам прэзідэнцкай службы аховы В.Каралёвым, які паводзіў сябе вельмі нахабна, заяўляючы дэпутатам, што "после 14 мая мы с вами разберемся". Палкоўнік Цесавец пачаў тлумачыць мэту візіту: "На пульт міліцыі ў 20.11 паступіў ананімны званок, што Дом ураду замініраваны. Мы эвакуявалі ўжо ўвесь пэрсанал, засталіся толькі дэпутаты. Але і вы таксама павінны пакінуць будынак. На вуліцы стаяць аўтобусы, якія завязуць вас дадому. Мы вымушаныя эвакуяваць усіх дэпутатаў. Я гавару з Грыбам, ён згадзіўся".

Дэпутаты катэгарычна адмовіліся пакідаць залу, бо ўсе выдатна разумелі, хто "замініраваў" будынак і дзеля чаго. І зноў пачалася байка пра міну: "Прэзідэнт загадаў, каб дэпутаты вызвалілі памяшканьне, бо знаходзіцца тут небясьпечна", — сказаў Цесавец і яшчэ некалькі разоў падкрэсьліў, што ён усё адно вымушаны будзе "выканаць загад прэзідэнта". Дэпутаты заявілі, што, калі сапёры хочуць праверыць памяшканьне, яны могуць гэта зрабіць, ім ніхто не зьбіраецца перашкаджаць. А Цесавец сваё: "Усё адно вызвалім памяшканьне". На тым і развіталіся.

Але ўсе мы разумелі, што ў хуткім часе яны зноў вернуцца.

Істотная дэталь: як толькі ў залу ўваходзіў Цесавец, на балконах адразу ж зьяўляліся два тыпы зь відэакамэрамі, якія фіксавалі ўсё, што адбывалася тут. А тым часам Цесавец спэцыяльна паводзіў сябе так, каб справакаваць дэпутатаў хоць на нейкія сілавыя дзеяньні супраць яго.

**23.00.** Дэпутаты пачалі разварочваць спальныя мяхі, коўдры, каб класьціся спаць. Вырашылі, што дзяжурыць будзем па чарзе. На гэты момант мы не толькі здагадваліся, але ўжо нават мелі інфармацыю, што яны абавязкова будуць спрабаваць выселіць нас з дапамогаю сілы.

**23.20.** У парламанцкую залу завалілі прыкладна 10 міліцыянтаў (ад падпалкоўніка і ніжэй) і чалавек 15—20 маладых хлопцаў у скураных куртках. На чале былі ўсё тыя ж Цесавец і Каралёў. Усе дэпутаты селі ў крэслы. Цесавец заявіў, што цяпер ён прыйшоў, каб выводзіць нас сілай. Двое ягоных людзей схапілі за рукі дэпутата Гюнтэра і пачалі цягнуць, але калегі, якія сядзелі побач, не далі. Хлопцы адступілі. Тады да Гюнтэра кінуліся Цесавец і Каралёў і пачалі зноў цягнуць яго. Было бачна, што ўласным удзелам у акцыі яны хацелі падняць баявы дух сваіх падначаленых. Але нічога не атрымлівалася. Мы зноў паўтарылі ім: памяшканьне не пакінем, любое ўжываньне сілы супраць нас — гэта беззаконьне, сапёры могуць свабодна шукаць "вашую міну".

Два вайсковыя палкоўнікі, якія прывялі сваіх сапёраў, сказалі, што могуць праверыць залу і ў прысутнасьці дэпутатаў. Па выніках праверкі яны склалі акт, які падпісалі самі (усе салдаты і афіцэры), а таксама папрасілі падпісаць некалькіх дэпутатаў. Гэта было ў **0.41**. Як толькі "госьці" пакінулі залу, адразу патухла сьвятло.

Недзе пасьля першай гадзіны ночы нам патэлефанавалі журналісты, якія знаходзіліся каля Дома ўраду, і паведамілі, што яны бачылі, як прыехалі Лукашэнка, Сініцын, Ціцянкоў і ў кабінэце прэзідэнта запалілася сьвятло.



**Палкоўнік Цесавец. Ён аддаваў загады**

Дэпутат Дзейка заняў месца дзяжурнага (у крэсьле Грыба), астатнія пакладліся спаць.

**2.35.** Дэпутат Голубеў пачуў як па лесьвіцах за залаю і ў фае шоргаюць боты, потым данеслася лязганьне зброі. Ён прыадчыніў дзьверы і пабачыў поўнае фае ўзброеных людзей і "чорныя маскі". "Салдаты са зброяй!" — крыкнуў Голубеў, і ў гэты момант у залі запалілася сьвятло. Мы хуценька апрануліся і селі разам у левы сэктар прэзідыюму.

**2.48.** У залю ўвайшлі Цесавец, Каралёў і зь імі невядомы чалавек ў паўвайсковым адзеньні: "Вам даецца пяць хвілін, каб пакінуць памяшканьне. Не губляйце час", — заявіў Цесавец. Ад нас міліцы пачулі ранейшы адказ. Каралёў нахабна кінуў: "у вас засталіся тры хвіліны". Пасьля гэтага яны разьвярнуліся і пайшлі на выхад.

**2.51.** Цесавец даў каманду і ў момант расчыніліся ўсе дзьверы, у залу ўварваліся прыкладна 200 чалавек: першымі да нас беглі грамілы ў чорных масках і цёмных камбінэзонах, за імі — спэцназаўцы ў шлемах, рэсьпіратарах з дубінкамі і аўтаматамі (за сьпіною), а па пэрымэтры залы сталі аўтаматчыкі. Накінуліся з усіх бакоў. Выцягвалі спачатку тых, хто сядзеў з краю. На Пазьняка адразу ўскочылі трое, пачалі душыць, круціць галаву, упіўшыся пальцамі ў вочы. Пакуль дацягнуліся да мяне, удалося сарваць некалькі масак. Але потым — удар у сьпіну, схапілі і пацягнулі (за рукі за ногі). У нейкі момант удалося вырваць адну нагу. Тады схапілі ўжо чалавек шэсьць. Нейкі падонак пачаў біць кулаком у твар. Адчуў, што паліліся кроў...

Усіх дэпутатаў выцягвалі ў двор, але праз розныя выхады. На ўсіх лесьвіцах пляччо ў пляччо стаялі міліцыянты. І ў фае заставалася яшчэ безьліч спэцназаўцаў.

Мяне кінулі ў жоўты міліцэйскі "ўазік" уперад нагамі. Бразнулі дзьверы і машына выехала ў горад. Нас было пяцёра: Садоўскі, Трусаў, Баршчэўскі, Шут і я. "Хто дзе жыве?" — запытаўся чалавек у скураных, які сядзеў побач з кіроўцам. Мы заявілі, каб вёз у Пракуратуру Рэспублікі. Такі варыянт яму, безумоўна, не падабаўся, але ў рэшце рэшт мы ўсё ж пад'ехалі да пракуратуры. Выклікалі дзяжурнага пракурора. Прыехала хуткая дапамога.

Астатніх 13 дэпутатаў павыкідвалі каго дзе. Прыкладна а палове пятай раніцы мы ўсе сабраліся ў гатэлі "Кастрычніцкі". Адтуль пайшлі ў прэзідэнцкую "лечкамісію" здымаць пабоі.

Праз некалькі гадзін правялі прэс-канфэрэнцыю, матар'ялы зь якой, як вядома, практычна не патрапілі ў беларускую прэсу.

Цяпер, напэўна, гэтая хранікальнасьць падзеяў ужо не зьяўляецца надта актуальнай. Аднак яе трэба было выкласьці хаця б таму, што ніводная беларуская газэта гэтага не зрабіла.

Нашая прэса не паведаміла таксама, як раніцай 12 красавіка сілы АМОНу і міліцыі разганялі людзей, якія дачуўшыся пра начныя падзеі, сабраліся паблізу пляцу Незалежнасьці пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Амон таптаў нагамі жанчын, старых людзей...

Ясна, што на гэтым Лукашэнка ня спыніцца. Ён са сваёю бандай ужо перайшоў тую мяжу, перад якой яшчэ можна было спыніцца.



**Удзень 12 красавіка, калі пасьля драматычнай ночы дэпутаты Апазіцыі ішлі на паседжаньне сэсіі, іх спыніла міліцыя. Спасылаючыся на ўказаньне адміністрацыі прэзідэнта, паставыя паказалі сьпіс 18-ці дэпутатаў, якіх загадана не дапускаць у парламэнцкую залу. Дэпутат Крыжаноўскі (*на здымку*), а таксама астатнія апазіцыянэры вымушаныя былі прарывацца праз кардон міліцыі.**

**Не прапускалі таксама Генпракурора дэпутата Шаладонава (*на здымку ўнізе*). А яго за што?**



*Ліст у рэдакцыю*

# Дубінка мае два канцы

Прэзідэнт Лукашэнка ўпарта ператварае Беларусь у паліцэйскую дзяржаву. Ягоная жандармская машына набірае абароты. Прыкладаў ужо больш чым дастаткова. КДБ, міліцыя, войскі — адзіная сіла, на якую абапіраецца Лукашэнка.

Цяпер амаль у кожным буйным горадзе Беларусі дыслакуюцца часткі і падразьдзяленьні ўнутраных войскаў МУС. Разьмяшчаюцца яны наступным чынам: Менск — Грушаўка (асобная міліцэйская брыгада), Менск — завулак Прылуцкі (асобны міліцэйскі дарожны батальён), Менск — пасёлак Сосны (асобная брыгада спэцпрызначэньня), Менск — в.Аколіца (асобная брыгада грамадзянскай абароны ўнутраных войскаў), Гомель (міліцэйскі, канвойны і грамадзянскай абароны асобныя батальёны), Рэчыца (канвойны батальён і міліцэйская рота), Віцебск (асобны міліцэйскі батальён), Бабруйск і Ворша (канвойныя батальёны і міліцэйскія роты), Берасьце (асобны міліцэйскі батальён), Пінск (міліцэйская рота), Баранавічы (брыгада, навучальны цэнтар на правах брыгады і міліцэйская рота), Горадня (міліцэйскі і грамадзянскай абароны батальёны), Ваўкавыск (канвойны батальён), Ліда (міліцэйская рота). Да гэтых частак унутраных войскаў трэба яшчэ дадаць армію міліцыянтаў (райаддзелаў). Аднак і гэтага Лукашэнку, здаецца, мала. Нядаўна камандзер унутранымі войскамі МУС РБ В.Агалец заявіў, што адміністрацыя прэзідэнта распрацоўвае новую канцэпцыю нацыянальных сілаў бясьпекі і г.д.

Дарэчы, генэрал Агалец на адной сустрэчы з афіцэрамі ўнутраных войскаў катэгарычна заявіў, што падначаленыя павінны без пытаньняў выконваць любы загад начальства.

Аднак ня ўсе салдаты ўнутраных войскаў нелюдзі. У нейкі крытычны момант дубінкі і аўтаматы могуць павярнуцца супраць тых, хто будзе патрабаваць выкананьня незаконнага загаду.

**М.В., афіцэр унутраных войскаў, Віцебск**



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Чацьверты зьезд БНФ: заканчэньне — пасьля выбараў

**8 красавіка ў гістарычным будынку Нацыянальнага тэатру імя Янкі Купалы адбыліся IV зьезд Беларускага Народнага Фронту і II зьезд Партыі БНФ.**

Васіль Быкаў, чый выступ распачаў зьезд, сьцьвердзіў, што ў Беларусі фармуецца вайсковая дыктатура лацінаамэрыканскага тыпу, а рэфэрэндум з мэтай вынішчэньня нацыянальнай мовы і дзяржаўнай сімболікі — толькі першы крок у чарадзе іншых, можа, болей страшных антыдзяржаўных і антыдэмакратычных мераў новага кіраўніцтва. Камунізм жвава падладкоўваецца пад сацыял-дэмакратыю, яднаецца з архаікай панславізму, перацякае ў камуна-фашызм, уцягваючы ў сваё атрутнае асяродзьдзе люмпэнізаваныя ды маргінальныя элемэнты, утвараючы ў выніку асабліва небясьпечную грымучую сумесь. Здаецца, гэта апошні шанец сусьветнага камунізму. Але драматызм сітуацыі заключаецца ў тым, што і для нашай спазьнелай дэмакратыі канец XX стагодзьдзя таксама ўяўляе ці не апошні шанец. Вось гэтыя шанцы і сышліся разам, каб цяперашнім пакаленьням вырашаць: хто — каго? Аднак існуе нешта вышэйшае за палітычную ці іншую мэтазгоднасьць, вышэйшае за яўны і прагматычны палітычны разьлік. У гэтым сэнсе маральны рыгарызм Народнага Фронту — той каштоўны капітал, якім валодае зараз мала якая партыя і ня толькі ў Беларусі, — сказаў Васіль Быкаў.

З дакладам "Аб становішчы ў Беларусі і задачах Народнага Фронту" выступіў Зянон Пазьняк. Ён бачыць прычыну абсурдных на першы погляд паводзінаў прэзідэнта, Кабінэту міністраў і бальшыні Вярхоўнага Савету ў тым, што супраць незалежнасьці нашай краіны вядзе халодную вайну аб'яднаная зьнешняя і ўнутраная мафіёзная рэакцыя. Масква і ўладная намэнклатура скарыстала духоўны, палітычны, псіхічны параліч беларускага грамадзтва. З.Пазьняк падрабязна спыніўся на беларуска-расейскіх пагадненьнях, падпісаных кіраўнікамі выканаўчай улады Беларусі ў пачатку году. Ён ацаніў іх як навязваньне Беларусі тыповай імпэрскай палітыкі разбурэньня. Так, пагадненьне "Аб асноўных прынцыпах стварэньня фінансава-прамысловых групаў" дае магчымасьць расейскаму боку захапіць і прыватызаваць уласнасьць беларускага народу, дазваляе вывесьці найбольш капіталаёмістыя часткі беларускай індустрыі са сфэры нацыянальнай прыватызацыі, сканцэнтраваць вытворчасьці, капіталы і стратэгічную інфраструктуру краіны ў руках вузкага кола расейскіх грамадзянаў, што належаць да былой партыйнай намэнклатуры. Палітычныя мэты пагадненьня — разбурэньне эканамічнай асновы сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусі як першы этап палітычнай інкарпарацыі яе ў Расею, і рэстаўрацыя мафіёзна-таталітарнай палітычнай мадэлі. У Расеі адбылася намэнклатурная перабудова, утварыўся не цывілізаваны рынак, а мафіёзна-бюракратычны. Такі рэжым непазьбежна хапаецца за імпэрскую дактрыну. Наша ж грамадзтва лёгка становіцца аб'ектам эксплуатацыі і маніпуляцыі сьвядомасьцю. Калі шанц выбараў будзе страчаны, ня выключана, што актыўная роля беларусаў ва ўласнай палітыцы спыніцца надоўга і наш нацыянальны лёс будзе залежаць хутчэй ад распаду Расеі, чым ад уласнай волі, — папярэдзіў Зянон Пазьняк.

Міністар Грамадзкага ("Ценевага") Кабінэту Беларускага Народнага Фронту Анатоль Станкевіч у сваім дакладзе пракамэнтаваў "Асноўныя кірункі выхаду з крызісу" — перадвыбарчую эканамічную платформу БНФ, распрацаваную Кабінэтам. Варта зазначыць, што, як і на прэзыдэнцкіх выбарах, Фронт вылучае менавіта эканамічную платформу ў якасьці выбарчай. А.Станкевіч падкрэсьліў, што каманда рэфарматараў павінна валодаць асабістай мужнасьцяй і мець маральнае права на правядзеньне цяжкіх, але жыцьцёва неабходных для народу рэформаў.

Зьезд БНФ прыняў Зварот да грамадзянаў Беларусі ўсіх нацыянальнасьцяў, дзе сьцьвердзіў, што "грамадзянскі мір, дух салідарнасьці і ўзаемнай павагі вырастае з павагі да кожнай нацыянальнай культуры". Былі таксама прынятыя ўхвалы "Пра разбуральны характар прэзідэнцкай ініцыятывы рэфэрэндуму" і "Пра недэмакратычныя ўмовы правядзеньня выбараў у Вярхоўны Савет".

Абодва зьезды — БНФ і Партыі БНФ — прыпынілі працу і адновяць яе пасьля выбараў.

**В.ВЯЧОРКА**

*Сёньня*

Сяргей ДУБАВЕЦ

## Тры душы

Беларускія пісьменьнікі — самы займальны літаратурны сюжэт. Хто, напрыклад, ня ведае строфку пра Петруся Броўку, які "піша лоўка", а прыгадаць хоць радок зь 9-томнага збору твораў паэта здолеюць хіба што адзінкі. Паэму пра Лысую Гару, дзе беларускія пісьменьнікі будуюць сабе дачы, у 70-я гады цішком перапісвалі і рабочыя завода "Гарызонт" і супрацоўнікі Гістпарта. Мабыць, пасьля Купалы і Коласа ніводзін твор тытулаваных народных пісьменьнікаў ня меў такой народнай папулярнасьці, як "Лысая гара". Сёньня фэномэн ананімнай паэмы выявіўся зноў, зноў спрацавала схема, вынайдзеная ў XIX ст. у славутым "Тарасе на Парнасе", аўтара якога дагэтуль шукаюць дасьледчыкі.

Аўтара паэмы "Лука Мудзішчаў — прэзідэнт" разам з дасьледчыкамі шукаюць сьледчыя. Задача ва ўсіх сэнсах марная, бо справа не ў аўтары, а ў беларускім літаратурным фэномэне, імя якога — посьпех.

Ананімнасьць Ведзьмака і ягоны адкрыты нонканфармізм — дзьве ўмовы гэтага посьпеху. Калі напачатку перастройкі Рыгор Барадулін напісаў верш "Сьвінафэрма Сакалова называецца ЦК" і падпісаў сваім імем, сьмеласьць паэта ніхто не ацаніў. Калі канфармісцкія падробкі пад Ведзьмака сталі друкавацца ў "Звяздзе" (паэма "Ачмурэньне"), іх таксама ніхто не заўважыў. Калі ж у незалежнай газэце зьявіўся "Лука", ксэраксы МУС запрацавалі на поўную магутнасьць. Не для службы капіявалі, а каб пачытаць.

Фэномэн ананімнай паэмы трэба шукаць у прыродзе беларускага пісьменьніка. Ён сёньня мае ня дзьве, як у М.Гарэцкага, а тры душы, тры аблічча. Зборны ўмоўны вобраз яго можа выглядаць наступным чынам.

Віктар Каваленка (альбо хто-небудзь іншы) як грамадзянін сваёй Беларусі піша паэму "Лука Мудзішчаў — прэзідэнт", падпісваецца Ведзьмаком і адсылае тэкст у СВАБОДУ. Сваю справу ён зрабіў прафэсійна, вытрымаўшы жанр палітычнага памфлету. Гэта значыць, не дапусьціў абразаў, але за жывое закрануў. І вось на запыт пракуратуры той жа В.Каваленка, але ўжо як дырэктар Інстытуту літаратуры, піша заключэньне ў жанры палітычнага даносу на Ведзьмака, і тут жа, як вядомы літаратурны крытык, друкуе ў ЛІМе вялікі артыкул, у якім пераказвае свайго "Луку" у публіцыстычным жанры. Такім чынам — тры жанры, тры іпастасі, тры душы.

Так выглядае тыповы вобраз беларускага літаратара. Пісьменьнік непазьбежна мае справу і з падпольшчынай, і з КДБ, і, зразумела, з самой літаратурай. На маю думку, гэта галоўнае, што мусілі зразумець шаладонаўскія сьледчыя. Сакрэт фэномэну — у трыадзінстве.

Наш сапраўды народны пісьменьнік можа быць толькі ананімам. Не выпадае адкрыцца — бо проста ня будуць чытаць, і не выпадае зусім схавацца — бо трэба за нешта жыць, а каб жыць лепей — патрэбны тытул, плата за тытул — данос.

Трохдушнасьць пісьменьніка канчаткова афармілася ў пасьляваенны час — дзеля выжываньня. У нармальнай беларускай Беларусі ананімнасьць адпадзе сама сабою. А ў Беларусі, прылепленай да Расеі, яна стане зброяй супраціву. Праблема з трэцім "амплуа" — з даносам. Сёньня ён выглядае агідным рудымэнтам сталінскіх часоў. Але Віктар Каваленка лічыць, што і гэты жанр варта захаваць на будучыню. Каб была жанравая пераемнасьць і ўсё такое.

Магчыма дырэктару Інстытуту літаратуры відней, што там надумаў дырэктар саўгасу.

**Рэгіна Зімніцкая (аўтар вядомага "пісьма прэзідэнту", апублікаванага ў "Народнай газэце" пад псэўданімам Зьдзіслаў Вальняровіч) даслала ў СВАБОДУ свой прагноз адносна маючых адбыцца парламанцкіх выбараў.**

# На Беларусі зноў спэктакаль

Палітычны прагноз З.Вальняровіча (Р.Зімніцкай)

Палітычная сцэна падрыхтаваная. Акторы занялі свае месцы, набралі паветра ў лёгкія, заслона падымаецца і...

Ах, які гэта будзе цудоўны спэктакаль — за народныя грошы і, зразумела, для цябе, рахманы беларускі народ! Ах, якую дзею ўбачаць гледачы, якую рэжысуру... Хочаш сабе — глядзі, як у імя цябе рвуць на грудзях кашулю, хочаш — слухай такія клятвы і прызнаньні ў любові, ад якіх ажно дух займае. А паслухаць і сапраўды будзе што. І такія прыгожыя будуць абяцаньні і такія розныя: ад пабудовы маста праз суседнюю лужыну да пабудовы самай цывілізаванай дзяржавы, ад адной дармовай бутэлькі гарэлкі ў дзень выбараў кожнаму, да сярэдняй пэнсіі 500 даляраў у тыдзень усім... А колькі расейскай нафты будзе спалена "мэрсамі", "волгамі" і "жыгулёнкамі"?! Можа і цэны на ежу зьнізяцца (разоў гэтак у дзесяць!). І ўсё гэта — у імя і дзеля цябе, беларус! Бач, і ты дачакаўся гэтага, як чалавек...

А фінальную сцэну ты ведаеш (пра гэта аднойчы ўжо пісаў, здаецца, Уладзімер Някляеў). Няхай даруе паэт, што не магу дакладна працытаваць, але хоць вольна хочацца зноў прыгадаць ягоныя словы.

Ты, беларус, па сваёй даўняй звычцы прыйдзеш дружна да скрыняў сьветлым вясновым днём, без усялякай веры і надзеі апусьціш туды аркушык, купіш пляшку раптам таннай гарэлкі і пойдзеш сьвяткаваць дзень сваёй дэмакратыі. У першай палове ночы будуць падлічаныя ўсе твае галасочкі, а ў другой палове вынікі будуць добра замочаныя падліковымі камісіямі (каб усё сышлося). І толькі потым прыйдзе раніца, твая звычайная працоўная раніца...

А цяпер, дазволь мне, беларус, я скажу табе, што будзе потым. Потым ты ўбачыш тое, што выбраў.

**Склад новага Вярхоўнага Савету:**

*1. "Грашовыя людзі" — 30%*

Людзі, якія добра ведаюць, як зарабляць грошы, а яшчэ лепей ведаюць, што без улады гэтыя грошы могуць быць вельмі лёгка ў іх адабраныя.

*2. "Местачковыя кухарчыны дзеці" — 10%*

"Дзеці", якія ў каторы раз успомняць, што галоўнае іхнае прызначэньне — кіраваць дзяржавай і змогуць вельмі пераканаўча сказаць пра гэта выбаршчыкам.

*3. "Паплечнікі прэзідэнта" — 30%*

Найбольш арганізаваныя і дысцыплінаваныя шэрагі "байцоў", утвораныя з вэртыкаляў, гарызанталяў, дыяганаляў і іншай прэзідэнцкай агароджы.

*4. "Разумныя дэмакраты" — 30%*

Людзі, якія добра разумеюць, куды трэба ісьці, але пакуль ня могуць пайсьці туды ўсе разам.

**Чым адразу зоймецца новы Вярхоўны Савет?**

1. *"Грашовыя людзі"*: тыя, хто меў грошы, будуць рабіць вялікія грошы, у каго былі вялікія грошы, будуць рабіць вельмі вялікія грошы.

2. *"Местачковыя кухарчыны дзеці"* адразу кінуцца карміць свае галодныя сем'і і сем'і сваіх сваякоў, г.зн. рабіць тое, дзеля чаго яны ў Вярхоўны Савет і лезьлі.

3. *"Паплечнікі прэзідэнта"* будуць імкнуцца заняць усе ключавыя пасады ў Вярхоўным Савеце, дэманструючы ўпэўненасьць, што прыйшлі яны "ўсур'ёз і надоўга".

4. *"Разумныя дэмакраты"* будуць доўга крыўдзіцца адзін на аднаго за тое, што прайгралі выбары і, ў рэшце рэшт, усё ж такі зробяць выснову, што ў палітыцы бескампраміснасьць (у адносінах адзін да аднаго) і разьяднанасьць не прыносяць посьпеху. Тым больш зараз, калі нацыі мала мець адных толькі герояў, а патрэбныя яшчэ і выратавальнікі.

**Ці можа быць іншы вынік выбараў?**

Можа, але дзеля гэтага патрэбны дзьве рэчы. *Першае.* Каб дэмакраты спачатку прачыталі падручнік "Псіхалогія простага люду", у якім чорным па белым напісана, што табе, беларус, няма калі разгадваць складаныя палітычныя рэбусы, бо табе трэба працаваць, працаваць і працаваць, хоць неяк карміць сваю сям'ю. Калі б табе растлумачылі, што рабіць выбар трэба не сярод чырвоных, шэрых, блакітных, пярэстых і г.д., а толькі паміж разумным і дурным, то тады ўжо ні на якія абяцанкі-цацанкі ты не купіўся б.

*Другая рэч.* Патрэбна каб ты сам, беларус, перастаў быць цёмным, сьляпым і задураным хлусьнёю. Каб не давяраў сваім вушам, а давяраў сваім вачам (якія, дарэчы, ты яшчэ нават і не расплюшчыў). Каб быў не маўклівым статкам, які можна гнаць у любым (зручным для пастуха) кірунку. Трэба ўсьвядоміць, што ты не *насельніцтва*, а *нацыя*, якая мае права на годнае і свабоднае жыцьцё. Бо твой сёньняшні генэтычны страх і амаль ужо генэтычная абыякавасьць заўтра не даруюць табе твае ж родныя дзеці, пабачыўшы, у якой краіне ты пакідаеш іх жыць.

Але што зробіш, відаць такі лёс. Падручнік для нашых дэмакратаў напісаны, здаецца, занадта проста, каб яны ўзяліся яго чытаць. А ты, беларус, страціш усялякую веру і надзею, сьпіш цяпер і будзе спаць далей. А потым у чарговы дзень сваёй "дэмакратыі" зноў спрасонку зробіш вельмі "ўдалы" выбар.



На здымку: Рэгіна Зімніцкая

**З. ВАЛЬНЯРОВІЧ**

*P.S. Карыстаючыся нагодай, Зьдзіслаў Вальняровіч хоча сказаць надта цікаўным: у дэпутаты, нацыянальныя героі і г.д. не зьбіраўся і не зьбіраецца. Ён уяўляе сабой чалавека, якому ўсё гэта надакучыла яшчэ ўчора.*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Вядзьмак ЛЫСАГОРСКІ

# Лука Мудзішчаў – прэзідэнт

Наш прэзідэнт Лука Мудзішчаў
(Даруй нам, Пушкін, вольны тон)
Меў дужа грозныя вусішчы
І надта сіплы барытон.

Ён быў дырэктарам саўгасу —
Надойваў рэкі малака,
Даваў дзяржаве бульбу, мяса...
«Чырвоным панам» быў Лука.

Умела кіраваў? Няўмела?
Хай скажуць курыца і гусь.
Ды думка ў галаве засела:
«Я осчастливлю Беларусь».

І вось без дапамогі таты
(Пра тату ён не ўспамінаў)
Лука пралез у дэпутаты,
Трыбуну спрытна асядлаў.

О, наш Лука мастак-прамоўца!
Паслухаць — чысты Цыцэрон!
Па-беларуску ж ані слоўца,
Ня ўмеў на мове шпарыць ён.

Хоць, праўда, у Вярхоўнай Залі,
Як БНФ крытыкаваў,
Грымеў Лука: «Яны ка-а-залі!..»
Пра што казалі — не казаў.

Падохлі сьвіньні. Мруць каровы.
Чым ашчасьлівіць свой народ?
І супраць беларускай мовы
Мудзішчаў аб'явіў паход.

Хоць як падумаць — сьмех дый сорам.
З кім ваяваць Лука гатоў?
Мудзішчаву ж ледзь-ледзь за сорак,
А МОВЕ — тысячы гадоў.

Жрэ беларускія каўбасы,
Па-беларуску ж ні гу-гу.
Ды за такое папуасы
Яго пусьцілі б на рагу.

Злысеў — так грыз граніт навукі,
Аж дзьве закончыў ВЭ-НЭ-У,
А як узяў уладу ў рукі,
Спыніўся конь. Ні тпру, ні ну.

Затое сябра ён у Боры,
Бо Ельцын «старший брат родной».
І ўсе Славянскія Саборы
Ваююць за Луку сьцяной.

Курс геаграфіі асіліў
І ўсяму сьвету далажыў,
Што нарадзіўся ён з Расеяй
На самай-саменькай мяжы.

У паклоне пазваночнік хруснуў
І сьлёзы шчасьця пацяклі.
І стаў Лука надзіва «рюскім»,
Русей за Бору у Крамлі.

Хоць лысы, але ўсё ж ня Ленін.
Вянец табе — САЎГАСНЫ ДВОР.
І тут лірычным адступленьнем
Аздобіць хочам мы свой твор.

Будзь ты хоць цмокам трохгаловым,
З каронаю на галаве,
Дарэмна зьдзекуешся з МОВЫ —
Яна цябе перажыве.

Яна, цярплівіца сьвятая,
Свой ясназорны пройдзе шлях,
Цябе растопча, не спытае —
А хто там блытаўся ў нагах?

Бо не прывыкла МОВА плакаць,
Стварыла столькі цудаў-дзіў,
Калі 'шчэ ты за вугал какаць
У мокрых штоніках хадзіў.

Давеку Шкловам застанецца
Наш беларускі горад Шклоў,
Хоць можаш ты сваім указам
Шклоў перайначыць у «Стеклов».

Бо за цябе (сабе на згубу)
Галасавалі ("слава всем!")
Ня восемдзесят тры, як трубіш,
А пяцьдзясят (і толькі) сем.

Што ж, весяліся. Стаў свой нумар.
Ды знай — прыходзіць, як вясна,
Народны беларускі гумар —
І хохмачкам тваім хана.

Гані людзей у свой фарватар
І разьдзімай, як Сталін, вус,
Галоўны наш русіфікатар,
Галоўны антыбеларус.

Дайшлі да кропкі мы. Да «точки»,
Як кажаш ты, наш гаваркі.
Цалуй піскілявым дамам шчочкі.
Еш з запаведніка грыбкі.

Мы незалежнасьць сваю цэнім,
Сабе паны мы і князі.
А ты ў Расею «на каленях»
Паўзі, як вуж, як смоўж, паўзі.

Тваіх «речей» зубадрабілкі
Абрыдлі. Гэта хоць «пойми».
Не Беларусь, карову Мілку
Хоць раз уволю накармі.

Вядзьмак Вядзьмарыч Лысагорскі
Свой абвяшчае прыгавор:
«Чым па трыбунах зраньня гойсаць,
Абгарадзі уласны двор.

Хоць ты сіпіш-гарыш на працы,
Хоць ты адзін «умнее всех»,
Зь цябе народ пачаў сьмяяцца.
Не забароніш гэты сьмех!»

Над Беларусяй вецер сьвішча.
Пасохлі бульба і авёс.
Наш прэзыдэнт Лука Мудзішчаў
Садзіцца ў чорны членавоз.

# Лука Мудзішчаў адказвае Ведзьмаку Лысагорскаму

**Шаноўная рэдакцыя!**
**Дасылаю вам ліст, які я атрымаў ад Лукі Мудзішчава ў адказ на маю паэму.**
Вядзьмак ЛЫСАГОРСКІ

Хто канфрантацыі ня ішчэт,
Цем канструкціўный дам атвет.
Пусьць я Лука! Пусьць я Мудзішчаў,
Но я яшчо і прэзідзент.

Што нада на этапе этам?
Халяўный газ, нефць за пятак.
Нам, бедным, ніщчым і разьдзетым,
Расія даст за проста так.

І зашчыціт нас ад угрозы
Капіталізма крумкачоў.
Ня страшны войны і марозы —
Есьць Жыріноўскій, есьць Грачоў.

Наш друг, канешна, і Лімонаў.
Он рускій! Значыт, старшый брат.
Ня нада сьлёз! Ня нада стонаў!
Он рассуждает, как Сакрат.

Пусьць он фашыст! Что тут такога?
Ведзь на хлябах славянскіх взрос.
А есьлі жэнственен нямнога,
Я жэнскій разрешу вапрос!

І хваціт вам крычаць пра мову!
Ва мне вапрос так не стаіт.
Тот, хто січас доіт карову,
Пусьць хоць іўрытам гаваріт.

Я эту так праблему віжу,
Всех завяряю, всем крічу:
Рускаязычных не абіжу
І ліц каўказскіх зашчышчу.

Сматры ты! Мовы захацелі!
Ня выйдзет, братцы спадары!
Мы 200 лет зазря пацелі?
А вы апяць — "куры", "вары"?

Я рэч скажу, а не прамову.
Адзін сьверхсрочнік заявіў:
"Нашто цяпер нам эта мова?
На ней Ільіч не гаваріў!"

Есьць пра сімволіку бумага.
Мне КГБ наш далажыў,
Што пад вот эцім самым флагам
Пазьняк у кайзера служыў.

Зачэм, скажыце, герб Пагоня?
Какой в ней смысл? Какой в ней толк?
Я верю: нас яшчо дагоніт
любімый серп і малаток.

Сярпом мы мафію па месту,
Гдзе разьмясьціўся божый дар.
А малатком всем, хто ня чэсный,
Народный нанясём удар!

Я выпалняю волю вашу
С Масквою Мінск навек злучыць,
Штоб сынаўя всех жэншчын нашых
Смаглі в Чачэні служыць...

Пускай ваюют і мужают,
Пусьць ахраняют рубяжы.
Мне вецераны заяўляют:
"Так, мол, і Ельцыну скажы".

В каторый раз гаварім снова
І паўтараем вноў і вноў,
Што на себя мы ўзяць гатовы
Часьць сьвежых цынкавых грабоў.

В ядзінстве толька наша сіла.
Нам так Расія памагла!
Ат мовы нас асвабадзіла,
Ат Каліноўскага спасла.

І не надзейцесь, экстрямісты!
Нас без Расіі проста нет.

Ваш самый чэсный,
Самый чыстый
Лука Мудзішчаў — прэзідзент.

**Сьлёзы прэзыдэнта.**

**Так плакаў Лукашэнка на сэсіі ВС 20 сьнежня 1994 г. пасьля выступленьня дэпутата С.Антончыка з антыкарупцыйным дакладам**



# "Вядзьмак нічога ня выдумаў"

**У мінулым нумары газэты мы ўжо паведамлялі, што Пракуратура Рэспублікі, выконваючы загад Лукашэнкі, сфабрыкавала справу галоўнага рэдактара СВАБОДЫ за публікацыю паэмаў Ведзьмака Лысагорскага. Аднак, як высьветлілася, далёка ня ўсе змаглі прачытаць гэтыя творы, таму мы вырашылі апублікаваць яшчэ раз. Няхай самі чытачы пераканаюцца ці ёсьць у гэтых публікацыях "крымінальнае злачынства".**

**Акрамя таго, нагадаем, што пракуратура "шые" гэтую справу з дапамогаю чатырох "экспэртаў": дырэктара Інстытуту літаратуры Беларускай Акадэміі навук В.Каваленкі, супрацоўнікаў Інстытуту У.Гніламёдава, М.Мушынскага і С.Лаўшука. Менавіта яны напісалі "літаратуразнаўчую экспэртызу", спасылаючыся на якую, пракуратура пачала перасьлед рэдактара СВАБОДЫ.**

**Аднак, як высьвятляецца, "экспэртыза" была зробленая таемна. З гэтай прычыны двое супрацоўнікаў Інстытуту даслалі Генэральнаму пракурору свой ліст, які мы друкуем ніжэй у скарочаным выглядзе.**

Праведзены намі скрупулёзны тэксталагічны аналіз паказвае, што ў апублікаваных у СВАБОДЗЕ паэмах, няма аніводнага выдуманага сюжэту. Усе тэмы, якія ў іх асьвятляюцца, сапраўды неаднаразова ўздымаліся самім прэзідэнтам А.Лукашэнкам у часе ягоных публічных выступаў — пра забесьпячэньне жанчын працай; пра беларускую мову і яе "недасканаласьць" і г.д. Сваімі вуснамі прэзідэнт шматкроць гаварыў пра "суперчестность" сваёй каманды і т.п.

У творах, такім чынам, нічога ня выдумана. Тут толькі падкрэсьліваецца, што меркаваньні прэзідэнта не бясспрэчныя. У іранічнай манэры аўтар выказвае сваю нязгоду зь ім. Праз гратэскавыя літаратурныя прыёмы ўказваюцца слабыя бакі падыходаў прэзідэнта да розных зьяваў грамадзкага і палітычнага жыцьця. Зь ім у паэтычнай форме вядзецца палеміка, спрэчка. Ананімны аўтар, каб паказаць лагічныя хібы разважаньняў свайго апанэнта, выкарыстоўвае шырока ўжывальны ў літаратуры, ажно з антычных часоў, прыём "reductio ab obsurdum" ("давядзеньня да абсурду").

Зьвесткі зь біяграфіі А.Лукашэнкі, якія згадваюцца ў паэмах, не выдуманыя аўтарам: прэзідэнт сапраўды вырас бяз бацькі (пра гэта ён сам казаў у розных інтэрвію); працяглы час ён быў дырэктарам саўгасу, мусіў выконваць спушчаны зьверху план на здачу дзяржаве мяса, бульбы, малака. Дзякуючы асабістым здольнасьцям, ён у вострай канкурэнтнай барацьбе "прабіўся", як пішацца ў паэме, у Вярхоўны Савет. Азначэньне "Чырвоны пан", ужытае ў творы — гэта ня болей чымся звычайная алегорыя, мэтафара, агульны выраз, прычым не прыдуманы аўтарам паэмаў, а даволі зацёрты штамп.

Скразныя пакепліваньні аўтара паэмаў з мовы А.Лукашэнкі, ужываньне прыёмаў мэтаніміі, антыфразісу, пэрыфразу, ампліфікацыі, алюзіяў, аксюмарану, парадыйнасьці, выкарыстаньне дыялектызмаў — паэтычна ўдалыя і эстэтычна выверанныя. Яны зусім не ўспрымаюцца чытачом як абраза годнасьці прэзідэнта. За імі — цалкам справядлівы дакор кіраўніку дзяржавы, які, на жаль, зусім не карыстаецца дзяржаўнай мовай, мовай свайго народа, а пры ўжываньні расейскай мовы, робіць безьліч марфалагічных і фанэтычных памылак. Вусная мова прэзідэнта — гэта бясспрэчна "трасянка", мова, на якой гавораць недастаткова адукаваныя, малакультурныя людзі. Менавіта таму яна і выступае натуральным аб'ектам сатыры, зьяўляецца прадметам пародыі.

Такім чынам, тэксталагічны і ідэйна-тэматычны аналіз зьместу паэмаў, надрукаваных у СВАБОДЗЕ, паказвае, што гэта яркія паэтычныя творы і ў іх няма аніякіх абразаў годнасьці і гонару прэзідэнта А.Лукашэнкі.

Нарэшце хацелася б нагадаць: перасьлед літаратараў за крытычныя выказваньні і публікацыі, за высьмейваньне грамадзкіх заганаў — нішто іншае, як замах на творчую свабоду майстроў слова, парушэньне элемэнтарных грамадзянскіх правоў пісьменьніка, вяртаньне ў Сярэднявечча.

На заканчэньне мусім дадаць: экспэртыза Інстытуту літаратуры АН Беларусі, на якую спасылаецца Генэральны пракурор В.І.Шаладонаў у сваім допісе на адрас Вярхоўнага Савету, была зроблена ўпотай, кабінетна, без абмеркаваньня на паседжаньнях аддзелаў і на Вучоным Савеце Інстытуту.

**І.В.САВЕРЧАНКА,**
**Я.Я. ЯНУШКЕВІЧ,**
**кандыдаты філалагічных навук, старэйшыя навуковыя супрацоўнікі Інстытута літаратуры Беларускай Акадэміі навук**


ГАЛОЎНЫ ВЫТВОРЦА
ЎНІВЭРСАЛЬНЫХ ШКЛЯНЫХ КУБОЎ
НА УСЁЙ ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ
КОМАНДОР


ПРАПАНУЕ
прылаўкі,
прысьценныя
горкі, вітрыны,
стэлажы
і шмат іншага
г. Менск, вул.Каліноўскага, 21
тэл./факс 65-61-68

Прадаецца
ВАЗ 21053
1991 года выпуску. $3100
т.27-21-05




© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Польская прэса дэталёва апісала гвалтоўную акцыю супраць дэпутатаў

**Польскія сродкі масавай інфармацыі апэратыўна і сур'ёзна рэагуюць на апошнія падзеі ў Беларусі.**

Так, у сераду (12.04) вечаровыя выпускі навінаў першай праграмы польскага тэлебачаньня пачыналіся рэпартажамі зь Менска, а найбуйнейшыя газэты зьмясьцілі матар'ялы пра Беларусь на самым лепшым месцы першых палосаў.

"Грамадзянская вайна?" — такое пытаньне вынесла ў загаловак *Życie Warszawy*, зьмясьціўшы артыкул пад рубрыкаю "Менск. Паляваньне ў парламанце". "А 3-й гадзіне ночы ў сераду міліцыя зьбіла і выкінула з будынка Вярхоўнага Савету апазіцыйных дэпутатаў, якія праводзілі галадоўку".

"Выкінуць дэпутатаў загадаў прэзідэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка", — цытуе газэта словы дэпутата С.Навумчыка і паведамляе, што, "паводле розных зьвестак, ад 100 да 200 узброеных аўтаматамі байцоў спэцназу ў масках уварваліся ў будынак і зьбілі 18 дэпутатаў ад БНФ і БСДГ... Пасьля гвалтоўнага выпіхваньня дэпутатаў сілы міліцыі акружылі будынак і нікога туды не пускалі".

Варшаўская газэта падае таксама словы дэпутата Валянціна Голубева: "Калі міліцыянтам, якія нас білі, мы гаварылі пра дэпутацкі імунітэт, то атрымлівалі яшчэ мацнейшыя ўдары. Гэта выразная праява таталітарнай, фашыстоўскай дзяржавы".

Праца артыкула прысьвечаны дэталёваму апісаньню падзеяў. "Дэпутат ад Апазіцыі Аляксандар Шут паказвае мне сінякі на руках і плячох ад дубінак беларускай міліцыі", — піша карэспандэнт, які быў сьведкам падзеяў.

Ён адзначае, што ў тую ноч "можна было падтрымліваць сувязь з дэпутатамі праз адзіную тэлефонную лінію. Нумар 29-61-22 назвалі "лініяй жыцьця". Аднак каля 3-й гадзіны ночы тэлефон змоўк... Дэпутатаў, многіх бязь верхняй вопраткі (а на дварэ дзьмуў моцны вецер і ішоў дождж са сьнегам), паразвозілі ў розныя канцы горада. Змучаныя і зьмерзлыя пачалі сыходзіцца яны да гатэля...

Зраніцы на цэнтральнай плошчы Незалежнасьці ў Менску пачалі зьбірацца праціўнікі палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі, аднак іх хутка і бесцырымонна разагналі ўзмоцненыя нарады міліцыі...

У другой палове дня выступіў прэзідэнт Лукашэнка, які абвінаваціў тых, хто галадае, у дэстабілізацыі сітуацыі і заявіў, што не дазволіць, каб хто-небудзь галадаваў у дзяржаўных будынках", — піша *Życie Warszawy*.

Ня менш дэталёвае апісаньне падзеяў падае *Gazeta Wyborcza*. Яна таксама зьмяшчае палітычны камэнтар галоўнага рэдактара Адама Міхніка, які адзначае: "У Лукашэнкі асаблівае бачаньне дэмакратыі, зь якім я не магу пагадзіцца..." Аўтар лічыць, што Беларусі пагражае некантраляваны канфлікт.

Менавіта на намер Лукашэнкі абсалютна незаконна распусьціць парламант зьвяртае ўвагу *Rzeczpospolita*.

У праграме навінаў першага каналу польскай тэлевізіі быў дадзены такі камэнтар: "Прычыны Лукашэнкавай зацятасьці на рэфэрэндуме відавочныя. Ён так шмат наабяцаў, быў такім бессаромным папулістам, што цяпер яму трэба стварыць імітацыю нейкай дзейнасьці... Зрэшты, варта чакаць, што ў гэтым канфлікце пераможа Лукашэнка, бо ў ягоных руках грубая сіла — войска, міліцыя...", — такую сумную выснову робіць польскі аглядальнік.

**Усевалад РАГОЙША**

# "Хваляваньні ў беларускім парламанце"

**Артыкул пад такім загалоўкам апублікавала 13 красавіка вядомая швайцарская газэта *Neue Zürcher Zeitung*.**

NZZ адзначае, што ў СНД паступова становяцца правілам канфлікты паміж заканадаўчай уладай і кіраўніком дзяржавы. Аднак не заўсёды падзеі разьвіваюцца так драматычна, як гэта было ў ноч на сераду ў Менску, калі ўзброеныя салдаты спэцназу па загадзе прэзідэнта Лукашэнкі штурмавалі залу паседжаньняў парламанту. Гэтыя людзі з аўтаматамі і ў чорных масках выкарыстоўвалі дубінкі і грубую сілу, выцягваючы на вуліцу васямнаццаць патрыятычна настроеных дэпутатаў, якія ў аўторак распачалі тут галадоўку супраць аўтарытарных дзеяньняў прэзідэнта Лукашэнкі".

Гаворачы пра імкненьне прэзідэнта правесьці рэфэрэндум, газэта падкрэсьлівае, што Лукашэнка "зь вялікай злосьцю і ў ультыматыўнай форме" патрабаваў ад дэпутатаў зацьвердзіць ягоную ініцыятыву. "Выступаючы з блытанай прамовай у парламанце, ён скардзіўся, што заходнія ўстановы спрабуюць паскорыць працэс рэформаў у Беларусі", — гаворыцца ў артыкуле.

Вяртаючыся да начных падзеяў у парламанце, газэта адзначае, што "беларускія электронныя сродкі масавай інфармацыі, якімі амаль цалкам валодае дзяржава, першую палову дня і да самага вечара ніводным словам не паведамілі пра драматычную ноч у парламанце".

"Былы шэф саўгасу Лукашэнка вырашае палітычныя канфлікты такімі дзіўнымі спосабамі, нібыта гэта ягоная прыватная справа", — падкрэсьлівае *NZZ*. "Аднак з большасьцю дэпутатаў ён знаходзіць паразуменьне, бо яны аднолькава непрымірымыя да дэмакратаў, якія змагаюцца за незалежную і арыентаваную на Захад Беларусь", — робіць выснову швайцарская газэта.

**Падрыхтаваў Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Немцы таксама даведаліся пра "неверагодныя падзеі"

**Найбуйнейшая нямецкая газэта *Frankfurter Allgemeine Zeitung* у нумары за 13 красавіка адкрыла сваю палітычную старонку вялікім фотаздымкам зь Менску. (Зьняты прыкладна такі самы эпізод, як на фота ў СВАБОДЗЕ на 1-й паласе). Пад здымкам подпіс: "Прэзідэнт Лукашэнка пагражае з трыбуны парламантарыям, якія пратэстуюць супраць ягонай палітыкі".**

Потым ідуць красамоўныя загалоўкі: "Неверагодная падзея ў беларускім парламанце", "Спэцназ выкінуў дэпутатаў з залы паседжаньняў".

FAZ адзначае, што "за чатыры тыдні да парламанцкіх выбараў у Беларусі барацьба за ўладу, якая працягвалася некалькі месяцаў паміж прэзідэнтам Лукашэнкам і Вярхоўным Саветам, завяршылася вялікім скандалам і мае непрадбачаныя наступствы".

Далей падрабязна (літаральна па гадзінах) апісваюцца падзеі ў парламанце ў ноч на 12 красавіка, якія нямецкая газэта адназначна называе "насільлем". Газэта цытуе сьпікера М.Грыба, які заявіў на паседжаньні Прэзідыюму, што ніколі раней Беларусь "не стаяла так блізка да грамадзянскай вайны".

Характарызуючы склад беларускага парламанту, *FAZ* падкрэсьлівае, што ў ім "пануе старая намэнклатура".

**Падрыхтаваў А.Д.**




# "Лукашэнка плюе на парламант"

**Такія і іншыя падобныя ацэнкі дало нямецкае радыё *ARD* гвалтоўнай акцыі супраць дэпутатаў Апазіцыі БНФ.**

"Сцэна, як з дыктатуры ў краіне трэцяга сьвету: 200 салдатаў і міліцыянтаў у масках, узброеныя аўтаматамі і дубінкамі, штурмавалі залу паседжаньняў парламанту, зьбівалі і таптaлі нагамі дэпутатаў, якіх гвалтоўна і груба выправадзілі з залы, разьвезьлі ў розныя часткі горада, дзе яны як бы апынуліся на свабодзе", — так пачаў свой камэнтар карэспандэнт *ARD* Пэтэр Ёзэф Бок з радыёстанцыі ў Маскве. — Гэтая сцэна разыгрывалася не ў Цэнтральнай Амэрыцы ці ў Заходняй Афрыцы, а ў сталіцы Беларусі Менску".

Карэспандэнт зазначыў, што "прэзідэнт Лукашэнка ўжо падчас выбарчай кампаніі вельмі нагадваў расейскага правaрадыкала Жырыноўскага, а цяпер прэзідэнт усё часьцей і часьцей паводзіць сябе як дыктатар".

Аналізуючы падзеі ў Менску, П.Ё.Бок адзначае: "Грубыя дзеяньні беларускага прэзідэнта супраць апазіцыі маюць дзьве мэты. Па-першае, запалохаць апазіцыю і ўвесь парламант. З дапамогаю рэфэрэндуму ён хоча атрымаць права распускаць парламант. Лукашэнка дамагаецца гэтага, каб з самага пачатку паставіць новы Вярхоўны Савет на холад. Тэндэнцыя такая самая, як і ў былых сярэднеазіяцкіх савецкіх рэспубліках, дзе прэзідэнты Казахстана і Узбэкістана стварылі адзінаўладзьдзе. Па-другое, прэзідэнт Лукашэнка хоча адцягнуць увагу ад эканамічнага бедства жыхароў 10-мільённай краіны, перад якімі ён нясе адказнасьць як папулісцкі палітык".

**А.Д.**

# Хто такія "цыві" і што яны робяць у Менску?

**Нямецкія тэлекампаніі *MDR*, *ORB* і *Deutsche Welle* здымаюць тэлефільм пра грамадзян ФРГ, якія праходзяць альтэрантыўную вайсковую службу ў Менску. Гэта будзе своеасаблівае дасьледаваньне іхнай адаптацыі да ўмоваў жыцьця ў Беларусі.**

Адмова ад вайсковай службы ў Бундэсвэры — справа звычайная. Прызыўнікі выбіраюць альтэрнатыўную (сацыяльную) службу, якая працягваецца 18 месяцаў. Грамадзкая арганізацыя з Бэрліну "Акцыя збавеньня" прапануе адбыць яе ня толькі на радзіме, але і ў іншых краінах сьвету. Сёлета такой магчымасьцю скарысталіся 160 чалавек. Найбольш ахвотна "цыві" (так іх называюць у Нямеччыне) едуць у Ізраіль, ЗША і Польшчу. У Маскве і Санкт-Пецярбургу яны даглядаюць былых ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Менск у "цыві" ня вельмі папулярны "з-за складаных умоваў жыцьця".

Тым часам "Акцыя збавеньня" лічыць, што Беларусь мае большую патрэбу у сацыяльнай службе, чым Ізраіль ці ЗША. Зараз у Менску знаходзіцца пяцёра "цыві", якія бясплатна працуюць у дзіцячых установах для сіротаў, псіхічнахворых і калекаў. Яны атрымліваюць па 150 дойчэмарак у месяц (як і салдаты Бундэсвэра), а таксама харчаваньне зь Нямеччыны.

"Пацыфізм, — лічыць аўтар сцэнару і рэжысёр будучага фільма Ульрыке Баўэр, — добрая справа, зь якою немцы прыязджаюць у Беларусь. Спачатку "цыві" успрымаюцца тут экзатычна. Асабліва тое, як мужчыны гуляюць зь дзецьмі, як апранаюцца і выглядаюць. Толькі чыноўнікі падазраюць іх у нечым і часта пытаюцца зь якой мэтай хлопцы сюды прыехалі".

На сустрэчы з "цыві" пісьменьнік Васіль Быкаў сказаў: "Мне падабаюцца немцы, якія выбіраюць альтэрнатыўную службу. У гэтым праяўляецца свабодалюбства чалавечага духу".

Здымачная група У.Баўэра ня мела ніякіх перашкодаў. Хіба што каля помніка Леніну падыйшлі міліцыянты і запыталіся навошта яны здымаюць правадыра. Тое ж самае было на менскім чыгуначным вакзале, дзе апэратар здымаў як "цыві" ад'язджалі ў ФРГ.

На жаль, беларускае заканадаўства не прадугледжвае альтэрнатыўнай службы. Супраць гэтага выступае кіраўніцтва Міністэрства абароны. Тым часам летась 50 чалавек адмовіліся ад вайсковай службы з рэлігійных і пацыфісцкіх меркаваньняў. А 1423 прызыўнікі ўхіліліся ад службы ў беларускім войску. 29 з гэтай прычыны былі асуджаныя. Генэралы больш арыентуюцца на расейскія "рэформы". А там, як вядома, зноў уведзены двухгадовы тэрмін службы ў войску і адмененыя льготы для студэнтаў.

**А.ДАШЧЫНСКІ**





© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

